

– Як у нейкай манархічнай краіне, тыя шоў сканчаюцца звычайна тым, што Лукашэнку падносяць нейкія прашэньні, а той сваёю «міласьцю» карае альбо мілуе.

# Юры ХАДЫКА: «Мы не чакаем міласьці ад Лукашэнкі»

Напярэдадні Кангрэсу Дэмакратычных сілаў старшыня ягонага Аргкамітэту прафэсар Юры Хадыка адказаў на некалькі пытаньняў Бюлетэня Асамблеі няўрадавых арганізацыяў.

*— Юры Віктаравіч, калі ласка, некалькі словаў пра гісторыю правядзеньня Кангрэсу Дэмакратычных сілаў...*

— Кангрэс Дэмакратычных сілаў сабраўся ўпершыню ў кастрычніку 1996 года. Ідэя ягонага скліканьня належала Беларускаму Народнаму Фронту. Напярэдадні рэфэрэндуму ўзьніклі падставы для аб`яднаньня ўсіх апазыцыйных сілаў перад наступам дыктатуры. З таго часу Кангрэс зьбіраўся яшчэ двойчы: у лютым 1997 года, калі стала вядома, што Эўрасавет будзе прымаць адносна Беларусі нейкія спробы ўпарадкаваць сытуацыю, і зноў паўстала неабходнасьць прадэманстраваць еднасьць апазыцыйных палітычных сілаў Беларусі. Трэцяе паседжаньне адбылося напрыканцы студзеня 1999 года, калі трэба было выпрацаваць адзінае стаўленьне да дзьвюх палітычных падзеяў года: выбараў у мясцовыя саветы паводле Лукашэнкаўскага закону, а таксама да ініцыятывы ВС 13-га скліканьня правесьці альтэрнатыўныя прэзідэнцкія выбары. Цалкам натуральна, што перад чарговай выбарчай кампаніяй, што таксама мусіць праводзіцца ў далёкіх ад дэмакратыі ўмовах, трэба вызначыць агульную пазыцыю ўсіх дэмакратычных арганізацыяў.

*— Юры Віктаравіч, які, на Ваш погляд, сапраўдны грунт шырока абвешчанага грамадзка-палітычнага дыялёгу?*

— Пасьля таго, як год таму ў Санкт-Пецярбурзе Парлямэнцкая асамблея АБСЕ прыняла вядомую рэзалюцыю па Беларусі, дзе заклікала ўрад і апазыцыю шукаць выйсьця з палітычнага тупіку шляхам перамоваў, а таксама паставіла перад афіцыйнае ўладаю шэраг абавязковых да вырашэньня пытаньняў, Лукашэнка адчуў сябе няўпэўнена і падпісаў адпаведнае пагадненьне; тым больш, што 20 ліпеня сьцякалі ягоныя паўнамоцтвы. Але вельмі хутка сапраўдны палітычны дыялёг быў падмянёны неабавязковымі кансультацыямі.

Як у нейкай манархічнай краіне, тыя шоў сканчаюцца звычайна тым, што Лукашэнку падносяць нейкія прашэньні, а той сваёю «міласьцю» карае альбо мілуе. Гэта занадта адрозьніваецца ад таго шляха, якім ішлі многія пастсавецкія краіны: круглых сталоў, сапраўдных перамоваў паміж рэжымам і апазыцыяй. На жаль, у нас да сёньняшняга дня ўсё гэтае сканчваецца на ўзроўні «кантактаў».

*— Юры Віктаравіч, ці ёсьць пэўныя супярэчнасьці паміж нашымі апазыцыйнымі структурамі? Чуў нават выраз: «Чаму Кангрэс павінны дыктаваць сваю волю ўсім партыям...»*

— Ён гэтага рабіць ня будзе. Пад час змаганьня з рэжымам Лукашэнкі ў нас склаліся пэўныя мэтады барацьбы. Найменш жорсткая: Кансультацыйны Савет, што да апошняга часу яднаў дзевяць апазыцыйных партыяў, прычым дзьвезь іх можна назваць дэмакратычнымі з пэўнымі абмежаваньнямі. Гэта ПКБ на чале з Калякіным і ЛДПБ Гайдукевіча. Хоць апошняя і завецца дэмакратычнай, але яе аўтарытарны стыль відавочны для ўсяго грамадзтва. Нядаўна ЛДПБ і КХП Зянона Пазьняка заявілі аб спыненьні свайго ўдзелу ў Савеце; першыя заявілі аб сваёй гатоўнасьці браць удзел у выбарах на любых умовах, другія — наадварот, аб няўдзеле на любых умовах. Ядро ж КС — ягоную Раду, створаную папярэднім Кангрэсам — складаюць тры найбуйнейшых дэмакратычных партыі: ОГП, БНФ і БСДП (Народная Грамада). Думаю, што пасьля чарговага паседжаньня кола гэтых партыяў будзе пашырана. Тым больш, што ў КР уваходзяць і Свабодныя прафсаюзы, і грамадзкія арганізацыі, напрыклад «Хартыя-97», і г.д.

*— Як ідзе справа падрыхтоўкі да чарговага Кангрэсу ў рэгіёнах?*

— Рэгіёны вельмі істотна актывізаваліся апошнім часам, іхны ўнёсак у агульную барацьбу расьце. У нашым аргкамітэце, прынамсі, прадстаўленыя ўсе вобласьці краіны. І адмыслова для прадстаўнікоў з рэгіёнаў зарэзэрвавана 280 дэлегацкіх мейсцаў. Прычым кожная партыя, вядома ж, таксама закліча сваіх прадстаўнікоў з рэгіёнаў.

*— Калі ласка, некалькі словаў наконт складу Кангрэсу...*

— Тут мы не нашмат адыйшлі ад прынцыпаў папярэдніх кангрэсаў. Хіба што БНФ, які раней атрымліваў большую квоту, зараз атрымаў такую ж, якую атрымалі БСДП і АГП — 80 чалавек. Больш дробныя партыі, сярод якіх партыя «Надзея», партыя Працы, Сацыял-Дэмакратычная Грамада і КХП — атрымалі па 40 мейсцаў. Свабодныя прафсаюзы атрамалі 100 мандатаў, ТБМ, якое мае свае структуры амаль у кожным рэгіёне — 40 мейсцаў. На Кангрэс абавязкова будуць запрошаныя ўсе дэпутаты апазыцыі ВС XII і XIII скліканьняў. І, вядома ж, больш за сто мейсцаў будзе аддадзена прадстаўнікам інтэлігенцыі, тым, хто вядомы сваімі дэмакратычнымі поглядамі, хто мае за плячыма пэўныя актыўныя дзеяньні. Гэтыя людзі атрымаюць пэрсанальныя запрашэньні. Сьпіс іх вызначаны калегіяльна, нашым аргкамітэтам.

*— Ці будуць на Кангрэсе госьці з-за мяжы?*

— Я, як старшыня аргкамітэту, спачатку ня думаў пра гасьцей. Але настолькі патрэбна, каб за мяжою падавалі пра нас дакладную, нетэндэнцыйную інфармацыю, што прыйшлося пераглядзець гэты пункт. Справа ў тым, што кожная наша краіна-суседка зараз вырашае свае найскладанейшыя праблемы, і натуральна, што ім — не да нашых праблемаў. Таму запрашэньне прадстаўнікоў дэмакратычных арганізацыяў з Польшчы, Літвы, Украіны, Расіі вельмі важна. Акром таго, мы разаслалі запрашэньні прадстаўнікам усіх амбамсадаў, АБСЕ, — мы лічым гэтае сапраўдным працягам таго дыялёгу, пра які так гучна крычыць Лукашэнка.

*— Ці плянуецца прысутнасьць на Кангрэсе кагосьці з прадстаўнікоў афіцыйных уладаў?*

— Ну, я накіраваў запрашэньне Чыкіну, усё ж такі ад ягонага подпісу залежаў дазвол на зьняццё тое самае залі... Ды й ніякіх абмежаваньняў наконт прысутнасьці журналістаў афіцыйных СМІ мы таксама не давалі.

*— Юры Віктаравіч, вашыя прадказаньні — ці паслужыць Кангрэс сапраўдным штуршком для аб`яднаньня ўсіх дэмакратычных сілаў? Тым больш, што набліжаецца Усебеларускі Зьезд за незалежнасьць...*

— Вынікі, якія б адштурхнулі нас на крок назад ад таго, што было дасягнута папярэднімі кангрэсамі, недапушчальныя. Вы ведаеце, што некаторыя партыі, напрыклад, удзельнічалі ў тых выбарах у мясцовыя органы ўлады: часткова — сацыял-дэмакраты, часткова «Яблык», камуністы — і ўсе пасьпяхова праваліліся. Вопыт кажа пра тое, што калектыўнае рашэньне, адзінства значна больш эфэктыўнае ў змаганьні, асабліва з дыктатарскім рэжымам, чым права на сваю ўласную пазыцыю. Вось і даводзіцца канстатаваць, што тая ж ЛДПБ, якая пра такую пазыцыю заявіла, тым самым падрывае давер да сваёй дэмакратычнасьці, бо ў агульным змаганьні з антыдэмакратычным, дыктатарскім рэжымам яны занялі пазыцыю, якая можа быць інтэрпрэтаваная як ускосная яго падтрымка.

*— А партыя Зянона Станіслававіча Пазьняка — КХП?*

— Яна займае самую радыкальную пазыцыю наконт выбараў. Лічу, што гэта — тупіковая пазыцыя. Канешне, я ня ведаю такіх аптымістаў, якія б лічылі, што Лукашэнку можна ўгаварыць, — не. Толькі некаторыя фактары рэальнага ўціску могуць прымусіць яго зрабіць саступкі. Але ж адмаўляць самую магчымасьць такіх саступак — нелягічна, я б нават сказаў, нецывілізавана ■









8 чэрвеня 2000 года

## ЗАЯВА
## Рабочай групы Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі

Уладны рэжым спрабуе падмяніць палітычныя перамовы аморфным, без бакоў працэдуры і парадку дня, “дыялёгам” з удзелам бязьмежнай колькасьці грамадзкіх арганізацыяў. Але грамадзкія арганізацыі ня ёсьць палітычным суб’ектам.

Рабочая група Асамблеі дэмакатычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі сьцвярджае, што далейшы ўдзел грамадзкіх арганізацыяў у гэтак званым “шырокім дыялёгу” ўваходзіць у супярэчнасьць з устаноўчымі прынцыпамі Асамблеі і несумяшчальны з працай у Рабочай групе Асамблеі.

***

8 чэрвеня адбылося пасяджэньне Рабочай групы Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў. Паводле самай нашумелай за апошнія месяцы падзеі – так званага грамадзка-палітычнага дыялёгу, абвешчанага прэзіьдэнтам Лукашэнка, адбылася дыскусія. Яе вынікам стала Заява Рабочай групы, зьмешчаная вышэй.

Акром таго, была заслуханая інфармацыя па падрыхтоўцы да Усебеларускага зьезду за Незалежнасьць.

Наступнае пасяджэньне Рабочай групы прызначана на 28 чэрвеня бягучага году.

Алесь БЕЛЯЦКІ:

## «АСАМБЛЕЯ МОЖА І БУДЗЕ АКАЗВАЦЬ СВАІМ СЯБРАМ КАНКРЭТНУЮ ДАПАМОГУ»

*— Спадар Алесь, не сакрэт, што сытуацыя з абаронай правоў чалавека ў нашай краіне пакідае жадаць лепшага...*

— Зробім папраўку. Вядома, што, у параўнаньні з Эўропай, ЗША, папросту — з цывілізаваным сьветам, нашая сытуацыя сапраўды не вытрымлівае крытыкі. Але з тым, што было, напрыклад, пры панаваньні камуністаў — не параўнаць. Зараз намаганьнямі грамадзкасьці адваяваныя правы, якіх у жыхароў БССР проста быць не магло. Іншая справа — якія цяжкасьці суправаджаюць ажыцьцяўленьне правоў на грамадзкую дзейнасьць — права на арганізацыі, сходы, шэсьці, друк, — карацей, на тое, без чаго нармалёвая грамадзкая дзейнасьць не магчымая.

*— Якую ролю, на Ваш погляд, адыгрывае трэці сэктар у абароне гэтых правоў? Ці не засяроджваюцца арганізацыі толькі на праваабарончай дзейнасьці?*

— Абарона правоў ні ў якім разе не ўключае ў сябе толькі прысутнасьць нашых назіральнікаў на судовых працэсах. Хаця, канешне, і гэтую дастаткова важную справу мы не пакідаем па-за ўвагай. Тут важна — адсочваць тэндэнцыі, шукаць справы, якія дастаткова паказальныя для грамадзтва ў дадзены пэрыяд. Калі казаць пра тыя ж судовыя працэсы, напрыклад, мы імкнемся абіраць найбольш важныя для грамадзтва, і ня толькі палітычныя: дзедаўшчына ў войску, карупцыя, і гэтак далей.
Па-другое. Я лічу, што абарона правоў грамадзянаў павінна грунтавацца ня толькі і ня столькі на кантролі судовых перасьледаў. Яна павінна зыходзіць зь веданьня людзьмі сваіх магчымасьцяў, заканадаўства, і ня толькі беларускага. Менавіта ў інфармаваньні грамадзянаў — асноўная мэта арганізацыяў трэцяга сэктару.

*— Зараз набірае моц тэндэнцыя да яднаньня арганізацыяў, якія да яго адносяцца...*

— Так, і вялікую ролю тут павінна адыгрываць менавіта Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў. Зададзім пытаньне: што могуць мець арганізацыі, якія ці ўжо ўвайшлі ў яе склад, ці зьбіраюцца гэтае зрабіць? Яны могуць мець канкрэтную дапамогу — пачынаючы ад рэгістрацыі і сканчваючы дапамогай у ажыцьцяўленьні праектаў, якія гэтыя арганізацыі задумалі. І, вяртаючыся да пытаньня аб напрамках дзейнасьці, заўважу, што гэта не толькі праваабарончыя ініцыятывы. Гэта й культуралягічныя праекты, і адукацыйныя імпрэзы, і асьвета грамадзянаў у галіне юрыспрудэнцыі, і стварэньне базаў дадзеных па разнастайных накірунках. У Асамблеі ёсьць магчамасьці наладзіць справу так, што кожная арганізацыя будзе мець у яе асобе надзейнага памагатага.

*— Спадар Алесь, як вядома, у Асамблею ўваходзяць дастаткова розныя арганізацыі, маючыя перад сабою не аднолькавыя мэты. Адны больш засяроджаныя на культуры, іншыя – на адукацыі, трэція – на праваабарончай дзейнасьці. Як знайсьці Асамблеі пункты іх перасячэньня, як задаволіць патрэбы кожнай арганізацыі?*

— Справа ў тым, што большасьць праблемаў, якія ўзнікаюць перад трэцім сэктарам, ляжаць у адзінай плоскасьці. Па-першае, як я казаў, гэтае праблемы з рэгістрацыяй. Рэжыму ня выгадна мець у краіне разьвіты трэці сэктар, які арыентуе грамадства на праявы актыўнасьці ня толькі ў тым, што датычыць пасьпяховага правядзеньня "Дажынак" ды лыжных кросаў. Мы можам дапамагчы людзям, якія вырашылі стварыць свае грамадскае аб'яднаньне, пасьпяхова прайсьці гэты этап.
Па-другое, склалася так, што на Беларусі ня так шмат тых, хто разьбіраецца ў грамадзкае дзейнасьці на столькі, каб узначаліць аб'яднаньне. Жаданьне – ёсьць, энергія – таксама, а вось ведаў не заўжды хапае. Таму Асамблея можа стварыць для такіх актыўных людзей умовы для адукацыі.
І, па-трэцяе, праекты, што грамадзкія аб'яднаньні мусяць рэалізоўваць, якіх бы галінаў тыя не датычыліся. Асамблея можа і павінна дапамагаць сваім удзельнікам, хаця б у тым, каб праекты падрыхтоўваліся прафэсійна, мелі надзейную юрыдычную і эканамічную глебу, арганізоўваць сэмінары па тых ці іншых накірунках; прычым весьці гэтыя сэмінары мусяць прызнаныя спэцыялісты – юрысты, супрацоўнікі масмэдыя, эканамісты і г.д.
Ідэяў можа быць шмат. Але вось ажыцьцяўленьне іх – справа больш складаная, чым вылучэньне. Для гэтага і патрэбная Асамблея – каб добрыя ідэі не зьнікалі.

*— Лета 2000 года адзначана уздымам грамадзкае актыўнасьці. Тут і правядзеньне Кангрэсу дэмакратычных сілаў, і Усебеларускі зьезд...*

— Узьнікла патрэба ў абмеркаваньні канкрэтных рэчаў. Тут і выбары, трэба вызначаць да іх адносіны, і, вядома ж, імкненьне рэжыму Лукашэнкі да яднаньня з Расеяй. Вось і трэба паказаць, што на Беларусі ня толькі ёсьць грамадзкая актыўнасьць, але грунтуецца гэтая актыўнасьць на канкрэтных прынцыпах – прынцыпах незалежнасьці, еднасьці мэты і людзей, якія гэтай мэты дабіваюцца ■

**Сваімі меркаваньнямі наконт будучыні трэцяга сэктару ўвогуле і Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў у прыватнасьці дзеліцца лідэр праваабарончай арганізацыі "Вясна" Алесь Беляцкі.**











### БНФ І «САЛІДАРНАСЬЦЬ»

На днях была падпісаная дэклярацыя аб супрацоўніцтве паміж прадстаўнікамі БНФ і польскай кансэрватыўна-народнай партыяй, якая ўваходзіць у выбарчы блёк «Салідарнасьць». Трэба адзначыць, што падобнае пагадненьне зьяўляецца першым для БНФ, якое яна падпісала з замежнай партыяй.

### ТБМ — ЗА НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЎНІВЭРСЫТЭТ

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны працягнула да 15 чэрвеня збор подпісаў за адкрыцьцё Беларускага нацыянальнага ўніверсітэту. Справа ў тым, што ў апошнія дні збор подпісаў заўважна актывізаваўся: штодзень актывісты ТБМ зьбіраюць у розных рэгіёнах Беларусі да 500 подпісаў за адкрыццё БНУ. Напрыканцы чэрвеня гэтыя подпісы плянуецца перадаць кіраўніцтву краіны. Дзесьці на пачатак ліпеня заплянаваныя сустрэчы кіраўнікоў ТБМ з міністрам адукацыі Васілём Стражавым, рэктарам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту Аляксандрам Казуліным і рэктарам Беларускага дзяржаўнага пэдагагічнага ўніверсітэту імя М.Танка Леанідам Ціханавым дзеля вырашэньня пытаньня якая з гэтых установаў можа быць ператвораная ў Нацыянальны унівэрсытэт альбо дзеля знаходжаньня іншай альтэрнатывы.

### БЕЛАРУСЬ НА ПАРОЗЕ ВЫБАРУ

7 чэрвеня ў Менску прайшла канфэрэнцыя пад назвай «Беларусь на парозе выбару». Арганізавала яе міжнароднае грамадзкае аб'яднаньне імя Генадзя Карпенкі. Асноўнымі пытаньнямі, што абмяркоўваліся на канфэрэнцыі, былі праблемы ў галіне палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай сфэрах жыцьця Беларусі. Удзел у канфэрэнцыі ўзялі лідары палітычных партыяў, дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га і 13-га скліканьня, прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў рэспублікі.

### ПРА БАБРУЙСК І НЯ ТОЛЬКІ

У Бабруйску распачаўся цыкль сэмінараў, якія ладзяць Маладыя Сацыял-Дэмакраты. Усяго мусіць адбыцца 15 сэмінараў на самыя розныя тэмы: гісторыя Бабруйшчыны, лекцыі й трэнінгі з псыхалёгіі, праваабароны ды іншага. Удзел у іх бяруць сябры незалежніцкіх арганізацыяў Бабруйшчыны. З і 4 чэрвеня тэмай сэмінару будзе: «Маладзёвыя арганізацыі на Беларусі».

### І ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ ТРЭБА АБАРАНЯЦЬ

У Жлобіне ствараецца адзьдзяленьне свабодных прафсаюзаў. Суполка мае за мэту абарону правоў прадпрымальнікаў, якія адчуваюць на сабе моцны ціск, у тым ліку з боку падатковай інспэкцыі. Рэальна ў Жлобіне больш за тысячу прадпрымальнікаў, але афіцыйна пасьля апошняй перарэгістрацыі іх дзейнічае 800.

### ПЭРФОМАНС ПА-МАЛАДЗЕЧАНСКУ

23 чэрвеня Маладэчанская арганізацыя Таварыства Беларускай Мовы ў мясцовым драмтэатры ладзіла бардаўскі канцэрт і пэрфоманс, у якім прынялі ўдзел выдатныя беларускія барды Віктар Шалкевіч (Гародня), Зьміцер Бартосік (Менск), Сяргей Мінскевіч (Менск), Аляксандар Ільін (Маладэчна), Ален (Полацак), Руслан Паёк (Менск).

### «СКІНЫ» СУПРАЦЬ ФУТБАЛІСТАЎ

Група скінхэдаў зьдзейсьніла напад на распаўсюднікаў незалежнага футбольнага выданьня «Offside». Сутычка адбылася некалькі дзён таму ў Барысаве падчас гульні мясцовай футбольнай каманды БАТЭ і мазырскай «Славіі» на гарадзкім стадыёне. Бойка за-



вершылася лёгкімі траўмамі для абодвух бакоў. Як распавядае моладзь з «Offside», да сямі чалавек прысталі больш за дзесяць брытагаловых падлеткаў. Нягледзячы на непрыемны інцыдэнт, хлапцы з моладзевай газэты распаўсюдзілі ўвесь наклад пэрыёдыка. Цікава, што гэта ня першы выпадак, калі фашыстоўскі арыентаваная моладзь спрабуе дэманстраваць сваю сілу. Некалькі тыдняў таму каля двух дзесяткаў «скіноў» зьявілася перад Управай БНФ «Адраджэньне» падчас паседжаньня моладзевай арганізацыі «Малады Фронт». «Госьці» чапляліся практычна да ўсіх, хто заходзіў ці выходзіў з памяшканьня, правакуючы моладзь з управы да масавай сутычкі (і гэта за два крокі ад Акадэміі міліцыі). Праз якія паўгадзіны скінхэды ўсё ж такі разышліся. Прымушаюць задумацца самі факты правакацыйных дзеяньняў маргінальнай моладзі, якая мэтава актывізавалася ў апошні час.

ГОМЕЛЬШЧЫНА

«ГОРАД НАШ!»

У Гародні з 25 траўня па 25 чэрвеня праходзіла дабрачынная акцыя «Горад наш», пад час якой зьбіраліся рэчы на раздачу тым, хто мае ў іх патрэбу. На днях гарадзенскія прадпрымальнікі падарылі мясцоваму дзіцячаму дому ласункі й невялікія сувэніры. 1 чэрвеня каля 100 дзяцей з мнагадзетных і маламаёсных сем'яў за кошт гарадзенскіх прадпрымальнікаў змаглі пагушкацца на арэлях, схадзіць у лялечны тэатар і атрымалі пачастункі. Актыўны ўдзел у дабрачыннай акцыі бяруць прадпрымальнікі рэчавага рынку «Паўднёвы», актывісты Гарадзенскага аддзяленьня БХК, арганізацыі «Крыніца міласэрнасьці», Беларускай арганізацыі працоўных жанчын, шэраг іншых арганізацыяў і грамадзянаў.

БУДЗЕ НОВАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ?

15 траўня ў Гародні адбыўся пікет супраць жорсткага абыходжаньня з жывёламі.
Як паведамляе газэта «Пагоня», арганізатары акцыі, якая распачалася а 16 гадзіне ў цэнтры горада, запрашалі да ўдзелу ў ёй усіх, «каго хвалюе гэтая праблема і хто можа дапамагчы ў стварэньні грамадзкай арганізацыі, якая будзе займацца абаронай жывёлаў».



СЭМІНАРЫ

Свабодны Прафсаюз Слоніму сумесна з Фондам сацыяльных ініцыятываў і дасьледваньняў імя братоў Луцкевічаў 10-11 чэрвеня праводзіў у горадзе праваабарончы сэмінар. На ім прысутнічала каля трыццаці чалавек, амаль палову зь якіх складала моладзь з дэмакратычных партыяў і арганізацыяў гораду.

***

Падобная імпрэза адбылася і ў Гародні. На працягу двух дзён, 10-11 чэрвеня, тамтэйшы Свабодны Прафсаюз ладзіў сэмінар пад назвай «Ахова працы. Тэхніка бясьпекі». У сэмінары прымалі ўдзел сябры рэгіянальных арганізацыяў Свабоднага Прафсаюзу.

КУДЫ ПАЙСЬЦІ ПРАЦАВАЦЬ?

Першасныя арганізацыі гарадзенскага Беларускага Незалежнага прафсаюза і Свабоднага прафсаюза 18 чэрвеня правялі ў горадзе канфэрэнцыю на тэму «Рынак працы для выпускнікоў навучальных установаў». У ёй бралі ўдзел сябры гарадзенскіх грамадзкіх арганізацыяў і партыяў. Запрошаныя да ўдзелу прадстаўнікі аддзелу працы й занятасьці Гарадзенскага гарвыканкаму, упраўленьня адукацыі, цэнтру прафарыентацыі моладзі не зьявіліся на канфэрэнцыю. Удзельнікі сустрэчы канстатавалі, што ў рэгіёне ня створаныя ўмовы для прафэсійнай самарэалізацыі моладзі, адсутнічае даступная і поўная інфармацыя аб рынку працы. Вынікам канфэрэнцыі стала прыняцьце заявы з запрашэньнем уладаў да дыялёгу па пытаньнях функцыянаваньня рынку працы для моладзі.

АБМЕН «ПРАФСАЮЗНЫМ» ВОПЫТАМ

На мінулым тыдні Гародню наведалі прадстаўнікі нямецкіх прафсаюзаў. На працягу тыдня яны «падарожнічалі» па гарадзенскіх прадпрыемствах, а ў нядзелю адбыўся сэмінар з удзелам сябраў Беларускага Незалежнага прафсаюза. Тэмай сэмінару было навучаньне сябраў прафсаюзу і абмен вопытам нямецкіх і беларускіх прафсаюзьнікаў. Гэта быў ня першы прыезд немцаў у нашую краіну. У мінулыя разы яны наведалі Салігорск і Наваполацак.





У ПОШУКАХ ЗГОДЫ

На днях адбылося паседжаньне Арганізацыйнай Рады «Магілеўскай альтэрнатывы» - аб'яднаньня грамадзкіх і палітычных арганізацыяў горада. Асноўнымі пытаньнямі, што абмяркоўваліся на ёй, былі: правядзеньне Кангрэсу дэмакратычных сілаў і абмеркаваньне магчымасьці правядзеньня Усебеларускага зьезду. Удзельнікі прыйшлі да высновы, што рашэньне наконт удзелу ў зьезьдзе будзе прымацца толькі пасьля таго, як яго арганізатары й прадстаўнікі палітычных партыяў прыйдуць да пагадненьня паміж сабою.

«ПРЭСА І ВЫБАРЫ»

У Магілеве адбыўся двухдзённы сэмінар пад назвай «Прэса і выбары». Ён быў арганізаваны фондам імя Фрыдрыха Эбэрта ў Беларусі і Беларускай асацыяцыяй журналістаў. Асноўнымі пытаньнямі, што разглядаліся падчас сэмінару, былі сучасны стан беларускай журналістыкі і роля рэгіянальнай прэсы ў выбарчай кампаніі. Удзельнічалі ў абмеркаваньні рэдактары і журналісты недзяржаўных выданьняў. Прысутныя пагадзіліся з тым, што журналісты павінны прапаноўваць людзям канкрэтную інфармацыю, якая прымусіць іх супастаўляць факты і прымаць уласныя рашэньні, зыходзячы з рэальнага палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага становішча.

БЕСПРАЦОЎНЫ — ЗНАЧЫЦЬ, ВІНОЎНЫ?

Магілёўскі праваабарончы цэнтар выкрыў факты шматлікіх парушэньняў з боку мясцовых праваахоўных органаў, прычым досыць выпадкова. Непадалёк ад мясцовага цэнтру занятасьці праваабаронцы праводзілі апытаньні беспрацоўных. Падчас гэтага мерапрыемства ў размове сталіся вядомыя цікавыя падрабязнасьці. Размова ідзе пра безспадстаўнае затрыманьне беспрацоўных ды прыцягненьне іх да прымусовых працаў у адным з магілёўскіх райаддзелаў міліцыі. Міліцэйскі нарад забраў з сабой у пастарунак сем непрацуючых магілёўцаў, дзе ім прапанавалі альбо папрацаваць на тэрыторыі РАУС, альбо адсядзець 15 сутак за парушэньне, якога не было. Па словах начальніка РАУС, ніхто не будзе даказваць невінаватасьць беспрацоўных. Людзям прыйшлося падпарадкавацца. Далей удалося высьветліць, што гэта далёка ня першы выпадак, калі «кампэтэнтныя органы» нахабна парушаюць правы чалавека і дзеючае заканадаўства. Ад імя ахвяраў міліцэйскага свавольства адпаведныя скаргі былі пададзеныя ў абласную пракуратуру, дзе паабяцалі разабрацца. Але, паводле звестак праваабаронцы Сяргея Абадоўскага, разбірацца найперш пачалі зь беспрацоўнымі – сьведкамі патэнцыяльнай крымінальнай справы супраць супрацоўнікаў міліцыі. Да людзей ужо наведваліся да хаты, пагражалі, патрабавалі напісаць заявы, у якіх яны адмаўляюцца ад першасных паказаньняў. Некаторыя, на жаль, не ўстаялі перад пагрозьлівымі словамі парушальнікаў у пагонах.

МАГІЛЁЎШЧЫНА



«БЕРАСЬЦЕЙСКАЕ ПАГАДНЕНЬНЕ»

У Берасьці адбылася сустрэча прадстаўнікоў мясцовых палітычіых партыяў, няўрадавых арганізацыяў, прафэсійных аб'яднаньняў, СМІ, вынікам якой сталася падпісаньне агульнага пагадненьня аб утварэньні Каардынацыйнае рады — «Берасьцейскае пагадненьне». Ініцыятыва, у якую ўвайшлі 16 арганізацыяў, мае разьвівацца ў рамках нядаўна ўтворанай «Рэгіянальнай Беларусі». Запачаткаваў яе актывіст берасьцейскага БНФ «Адраджэньне» Рыгор Бакіевіч. Новаўтвораная Каардынацыйная рада мае намер абапірацца на рэгіянальнае супрацоўніцтва, дэкляруе адкрытасьць на супрацоўніцтва зь іншымі арганізацыямі, якія не ўвайшлі ў блёк, але стаяць на пазыцыях незалежнасьці Беларусі, прынцыпах дэмакратыі і роўнасьці.

НАПАД НА СТАРШЫНЮ БАРАНАВІЦКІХ «ФРАНТАВІКОЎ»

20 чэрвеня Алесь Пікула, старшыня баранавіцкай арганізацыі БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ, знаходзіўся адзін на штаб-кватэры. У 15.30 у дзьверы пазванілі. Калі ён адчыніў іх, то ўбачыў трох маладых людзей, у адным зь якіх пазнаў прадстаўніка г.зв. «лімонаўцаў».
Яны запыталі ў сп. Пікулы, хто яшчэ ёсьць і пачуўшы, што больш нікога няма, захлопнулі дзьверы і зь нецэнзурнай лаянкай накінуліся на яго, пачаўшы зьбіваць. На пачатку ён

ГАРАДЗЕНШЧЫНА

адбіваўся, а потым Алесю ўдалося вырвацца. Ён адразу скіраваўся ў рэдакцыю незалежнай газэты, каб патэлефанаваць сябрам, бо з сабою не было ані грошаў, ані тэлефоннай карткі - усё засталося ў офісе. Пасьля чаго накіраваўся ў ГАУС, дзе напісаў заяву. Цікава, што да бойкі – каля пад`езду, дзе сядзелі людзі сталага веку, «нацыянал-бальшавікі» крычалі, што зараз будуць «вешаць бээнэфаўца».
Гэта ўжо ня першая спроба баранавіцкіх прарасейскіх, нацыянал-шавіністычных арганізацыяў нашкодзіць БНФ. Яшчэ ў ліпені 1999 г. яны спрабавалі сарваць сустрэчу жыхароў горада зь незалежнай прэсай, крычучы: «Сталин, Берия, ГУЛаг».

«МОЛАДЗЕВАЯ ДУМКА»

Берасьцейскі «Малады Фронт» выдаў першы нумар свайго друкаванага органу — газэты «Моладзевая думка». У ім утрымліваюцца зьвесткі пра дзейнасьць у горадзе арганізацыі, іншых моладзевых аб'яднаньняў, інфармацыя пра спартовыя, музычныя акцыі, што адбываліся апошнім часам, а таксама матэрыялы пра супраціўніках па ідэялягічным фронце - БПСМ.

ФЭСТЫВАЛЬ ДЗЯЦЕЙ-ІНВАЛІДАЎ

З 1 па 5 чэрвеня ў Камянцы праходзіў міжнародны фэстываль творчасьці дзяцей-інвалідаў, арганізаваны Беларускай асацыяцыяй дапамогі дзецям-інвалідам. У акцыі прынялі ўдзел арганізацыі зь Беларусі і Расеі, прадстаўнікі дабрачынных фондаў, галоўным чынам супрацоўнікі Counterpart. Да правядзеньня імпрэзы даволі спрыяльна паставіліся мясцовыя ўлады, фэстываль было дазволена праводзіць у мясцовым Доме Культуры.

НАШТО «ВЕРТЫКАЛЬШЧЫКАМ» САМАКІРАВАНЬНЕ?

2-3 чэрвеня ў Пінску прайшоў сэмінар па мясцовым самакіраваньні, наладжаны фондам Льва Сапегі. Тэмай сустрэчы стала мясцовае самакіраваньне. Удзел у сэмінары ўзялі прадстаўнікі розных грамадзкіх арганізацыяў, раённага і гарадзкога саветаў, райвыканкаму. З запрошаных 15 сябраў гарсавету, на жаль, на сэмінар не зьявіўся ніводны.



*24-25 чэрвеня ў Наваградку абыўся фэст сярэднявечнай культуры і рыцарскія баі.*

АБАРОНА ПРАВОЎ: АД ТЭОРЫІ ДА ПРАКТЫКІ

Пінскі моладзевы цэнтар правоў чалавека правёў 10 чэрвеня сэмінар на тэму «Практычная абарона правоў чалавека». Сэмінар для моладзі праходзіў адзін дзень: былі разгледжаныя практычныя аспэкты абароны правоў чалавека, параўнаныя розныя заканадаўчыя сыстэмы што да правоў чалавека. Пасьля лекцый адбылося абмеркаваньне праблемаў.

ЯК ДАПАМАГЧЫ ЎЦЕКАЧАМ

Прадстаўнік вярхоўнага камісарыяту па справах уцекачоў ААН наведаў Берасьце, дзе адбылася сустрэча з прадстаўнікамі грамадзкіх арганізацыяў і ўладаў (апошнія былі прадстаўленыя супрацоўнікамі аблвыканкаму). Прадстаўнікі міжнароднай арганізацыі прапанавалі сваю адукацыйную праграму, а таксама праграму фінансавай падтрымкі праектаў. Сярод арганізацыяў, якія зрабілі першы крок да супрацоўніцтва - згуртаваньні нацыянальных меншасьцяў, «Халакост» ды інш.

ЖАНОЧАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ

У Пінску выйшаў у сьвет чарговы нумар выданьня Грамадзкага Крызіснага цэнтру «Жаночая салідарнасьць». Мэта, якую ставіць перад сабою арганізацыя «прасунутых» палескіх кабет — інфармаваньне й дапамога жанчынам, якія апынуліся ў крызіснай сытуацыі ці то ў сям`і, ці то ў грамадзкіх варунках. Маецца на ўвазе юрыдычныя, псыхалягічныя парады, матэрыялы на тэму эканомікі сям`і; зьмяшчаюцца артыкулы пра сродкі і мэтады дапамогі жанчынам, чые мужы няўмерана спажываюць сьпіртовыя напоі. Даюцца таксама кухаьныя парады для кабет з заробкам ніжэй сярэдняга, — а гэтае значыць, для большасьці беларусак.



навіны нда

«ЖАНЧЫНА Ў XXI СТАГОДЗЬДЗІ»

У Гомлі прайшоў цыкл сэмінараў «Жанчына ў XXI стагодзьдзі», зарганізаваны жаночым інстытутам «Энвіла» пры дапамозе жанчын з абласнога грамадзкага аб`яднаньня «Ініцыятывы» і гомельскага падраздзяленьня Беларускай Арганізацыі Працоўных жанчын.
У сэмінары бралі ўдзел 14 прадстаўніц з 9 няўрадавых аб`яднаньняў горада. Ён выклікаў вялікую цікавасьць у гамяльчанак, паколькі кранаў дастаткова важныя гендэрныя праблемы — разьвіццё жаночага лідарства, мейсца і ролю жанчыны ў грамадстве, прасоўваньне жанчыны ва ўладу.

ГРАМАДЗЯНІН І СЬЛЕДЗТВА: ХТО КАГО?

Грамадзкае аб`яднаньне «Прававая ініцыятыва» пры судзеяньні гомельскіх «грамадзянскіх ініцыятываў» зарганізавала ў Гомлі сэмінар «Грамадзянін і сьледзтва, прававыя і псыхалягічныя аспэкты».
Тэма сэмінару, вядома ж, не магла выклікаць задавальненьне ўладаў. Як і склад яго ўдзельнікаў — яны прадстаўлялі практычна ўсе няўрадавыя арганізацыі рэгіёну. І даволі часта маюць пэўныя стасункі з прадстаўнікамі ўлады. У форме і ў цывільным...
Два дні пайшло на абучэньне азам пісьменных, з прававога пункту гледжаньня ўзаемаадносінаў з міліцыяй, пракуратурай, КДБ і іншымі ворганамі, якія апошнім часам праяўляюць глыбокі інтарэс да дзейнасьці NGOs.

ЗАТРЫМАЛІ СТУДЭНТАЎ. ЗА ЎЛЁТКІ...

Два студэнты Гомельскага ўнівэрсытэту Зьміцер Карпенка і Зьміцер Кумічоў былі затрыманыя міліцыяй падчас расклейкі ў горадзе ўлётак, якія выкрывалі мясцовае чынавенства, што выдаткоўвае велізарныя грошы на будаўніцтва лядовага палацу ў той час, як у гэтым жа мікрараёне Гомля наагул няма бальніцы і стаіць недабудаваная школа. Маладыя людзі былі дастаўленыя ў РАУС, дзе на іх быў складзены пратакол паводле артыкулу 143 адміністратыўнага кодэксу «Парушэньне правілаў добраўпарадкаваньня і ўтрыманьня населеных пунктаў». Празь некаторы час Зьміцер Карпенка і Зьміцер Кумічоў былі ізноў выкліканыя ў міліцыю, дзе на іх быў складзены яшчэ адзін пратакол, цяпер ужо паводле арт. 167 «Незаконнае выкарыстаньне сьцягоў, вымпелаў, эмблемаў, сымбаляў і плякатаў». Прычым затрыманыя маладыя людзі мелі размову з намесьнікам начальніка абласнога УУС Салаўёвым, які ўдала сумяшчае міліцэйскія пагоны з дэпутацкім значкам Палаты прадстаўнікоў. Паводле словаў затрыманых, падчас гутаркі сп. Салаўёў абражаў кіраўнікоў Аб'яднанай грамадзянскай партыі, называў іх «алькаголікамі», а таксама пагражаў хлопцам 30-суткавым зьняволеньнем і выключэньнем з унівэрсытэту.

БАРДЫ – НАВУЧЭНЦАМ

Гомельскі моладзевы цэнтар «Гарт» завершыў праграму бардаўскіх канцэртаў у навучальных установах Гомельскай вобласьці. На працягу траўня канцэрты вядомых бардаў Вольгі Цярэшчанкі й Андрэя Мельнікава адбыліся ў школах, ліцэях і тэхнікумах Гомля, Жлобіна, Рэчыцы й Сьветлагорска. Праграма мела на мэце знаёмства моладзі Гомельшчыны з беларускай музычнай творчасьцю, а таксама пошук грамадзка-актыўных школьнікаў і ліцэістаў. Для зацікаўленых на працягу чэрвеня-ліпня будуць арганізаваныя інтэрактыўныя трэнінгі.

РЭДАКТАРЫ ВУЧАЦЦА

9-10 чэрвеня ў гомельскім грамадзкім аб'яднаньні «Грамадзянскія ініцыятывы» прайшоў сэмінар для рэдактараў трох рэгіянальных газэтаў - «Навіны Тураўшчыны», «Рэчыцкі агляд», «Мазырскія ведамасьці». Дырэктар выдавецкага цэнтру «Грамадзянскіх ініцыятываў» Аляксандар Шкут абвучыў рэдактараў асновам макетаваньня і вёрсткі, дзякуючы чаму гэтыя газэты здолеюць выходзіць самастойна, без дапамогі гомельскага цэнтру.



БЕРАСЦЕЙШЧЫНА

ШТО ТАКОЕ «ТРЭЦІ СЭКТАР»?

Моладзевае аб'яднаньне «Гарт» на базе Рэчыцкага аддзяленьня «Грамадзянскіх ініцыятываў» правялі для мясцовай моладзі сэмінар-трэнінг на тэму «Трэці сэктар і роля грамадзкіх арганізацыяў у жыцьці моладзі». Праводзіў сэмінар кіраўнік «Грамадзянскіх ініцыятываў» Алесь Карніенка. Удзел у сустрэчы прынялі каля трыццаці чалавек рэчыцкіх маладых людзей, якія актыўна ўдзельнічалі ў абмеркаваньні праблемаў грамадзкіх арганізацыяў і ўдзелу ў іх дзейнасьці моладзі.

«АБАРОНІМ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ»

2 чэрвеня ў Воршы прайшоў санкцыянаваны пікет, наладжаны сябрамі КХП БНФ, АГП, аршанскім прафсаюзам і Культурна-асьветніцкім цэнтрам імя Уладзіміра Караткевіча. Галоўным лёзунгам акцыі, які быў прыняты загадзя, быў: «Абаронім беларускую мову». Але сярод плякатаў, што трымалі ў руках каля трыццаці ўдзельнікаў пікету, не было ні слова пра беларускую мову. Асноўныя тэмы плякатаў былі такія: «Мы супраць інтэграцыі», «НЕ - абнішчаньню народа».

ВІЦЕБШЧЫНА

«КОНТУР» ВУЧЫЦЬ МАЛАДЫХ ДЭМАКРАТАЎ

3-4 чэрвеня Віцебскі Цэнтар Моладзевых ініцыятываў «Контур» правёў чарговы сэмінар для лідараў і актывістаў моладзевых няўрадавых арганізацыяў Віцебска і Віцебскае вобласьці. На гэты раз тэмай сустрэчы стала «Прававая база грамадзкага аб'яднаньня, рэгістрацыя грамадзкіх аб'яднаньняў». Сэмінар праводзіў сябра праваабарончай арганізацыі «Вясна» Кастусь Смолікаў.

РОК-КОЛА – 2000

22-23 чэрвеня ў Наваполацку праходзіЎ фэстываль «Рок-кола -2000». Арганізацыяй мерапрыемства займаецца наваполацкая творчая майстэрня «Зьніч» пры падтрымцы супольнасьці «Усяслаў Чарадзей». У фэсьце возьмуць удзел музычныя гурты з усёй Беларусі, а таксама госьці з Украіны й Расеі.

«КРЫВІЧ» ЯДНАЕ

Варшанскі цэнтар «Крывіч» выступіў зь ініцыятывай аб'яднаньня дэмакратычных арганізацыяў горада ў Каардынацыйную Раду Дэмакратычных сілаў Аршанскага раёну. 7 чэрвеня было праведзена паседжаньне, на якім большасьць прадстаўнікоў арганізацыяў пагадзіліся з прапанавай ініцыятараў гэтай ідэі.

ЗАПРАШАЕМ У ЭКАЛЯГІЧНЫ ЛЕТНІК

Моладзевая экалягічная суполка «Эквіта» і віцебскі Цэнтар моладзевых ініцыятываў «Контур» праводзіць пад Віцебскам ля возера Лясное моладзевы экалягічны летнік. Удзел у летніку прымаюць лідары і актывісты моладзевых аб'яднаньняў і ініцыятываў г. Віцебску і Віцебскага рэгіёну. Летнік будзе трываць 10 дзён. Пад час яго пройдзе шэраг экалягічных трэнінгаў, спартовых гульняў і спаборніцтваў, прагучаць песьні беларускіх бардаў, у рэшце будзе ўрачыста ўзьняты бел-зялёна-белы сьцяг - афіцыйны сымбаль суполкі «Эквіта».

ПАД АХОВАЙ...

16 чэрвеня ў Воршы прайшоў прававы сэмінар для актывістаў НДА, партыяў і Свабоднага прафсаюзу, якія прымаюць удзел у пікетах і іншых масавых акцыях. Праводзіў яго юрыст Свабоднага прафсаюзу Алег Граблеўскі, які азнаёміў удзельнікаў зь іх правамі і абавязкамі. Пад час правядзеньня сэмінару каля дома дзяжурыў поўны аўтобус міліцыянтаў.

СУСТРЭЛІСЯ НА БАРЫКАДАХ

20 чэрвеня прадстаўнікі васьмі грамадзкіх аб'яднаньняў, партыяў, газэты «Куцейна» і Свабоднага прафсаюзу ўсё ж такі сустрэліся са старшынём Аршанскага гарвыканкаму Валянцінам Майсеюком. Арганізацыі дабіваліся сустрэчы з чыноўнікам з нагоды таго, што на працягу ўжо доўгага адрэзку часу вялікая колькасьць дэмакратычных ініцыятываў гораду ня можа зарэгістравацца ці прайсьці перарэгістрацыю, бо прадстаўнікі трэцяга сэктару сутыкаюцца з амаль паўсюдным адмовамі чыноўнікаў пры спробе атрыманьня памяшканьняў пад юрыдычны адрас. Размова з Майсеюком да паразуменьня не прывяла. Старшыня выканкаму катэгарычна заявіў, што памяшканьні пад дзейнасьць арганізацыяў выдзяляцца з камунальнай уласнасьці ня будуць, а тое, што адмаўляюць у зьняцьці ў арэнду дырэктары прадпрыемстваў, то ён нічога зрабіць ня можа - яны ўладам «не падпарадкоўваюцца» ■

*Пры падрыхтоўцы арыгінальных матэрыялаў выкарыстаныя інфармацыя Беларускай Асацыяцыі Рэсурсных Цэнтраў (БАРЦ), Віцебскага моладзевага цэнтру "Контур", БелаПАН, фотаздымкі IREX.*



## БЕЛАРУСКІ ПЭН-ЦЭНТАР




БЕЛАРУСКІ ПЭН-ЦЭНТАР — аб'яднаньне прафэсійных літаратараў, створанае ў 1989 годзе з мэтай пашырэньня інтэлектуальнага супрацоўніцтва прадстаўнікоў творчых прафэсіяў, разьвіцьця беларускае культуры, выхаваньня ў грамадзкай сьвядомасьці высокіх гуманістычных ідэалаў. У склад Беларускага ПЭН-цэнтру ўваходзяць каля 100 пісьменьнікаў, якія пражываюць у Беларусі і за еймымі межамі.

У 1990 годзе Беларускі ПЭН-цэнтар быў прыняты ў Міжнародны ПЭН-клюб - сусьветную асацыяцыю пісьменьнікаў, мэтамі якой зьяўляюцца разьвіцьцё міжнароднага культурнага супрацоўніцтва ў галіне літаратуры, садзейнічаньне рэалізацыі прынцыпу свабоды слова, абарона пісьменьнікаў і прадстаўнікоў іншых творчых прафэсіяў, якія перасьледуюцца за выражэньне сваіх поглядаў.

Сумесна зь іншымі беларускімі і замежнымі праваабарончымі арганізацыямі ПЭН-цэнтар вядзе працу па зборы і распаўсюджваньні інфармацыі аб перасьледаваньні асобаў творчых прафэсіяў, аказвае ім падтрымку шляхам зьяўленьня пратэстаў, прынясьця звароту ў іх абарону і г.д.

У ПЭН-цэнтры функцыянуе юрыдычная служба. Яна вядзе сваю працу па трох асноўных накірунках: кансультацыі і прававое забесьпячэньне, аналіз і падрыхтоўка камэнтароў прыманых нарматыўных актаў, закранаючых тыя ці іншыя аспэкты свабоды слова і друку ў Беларусі; збор і абагульненьне інфармацыі пра факты парушэньняў правоў пісьменьнікаў, журналістаў, СМІ ў рэспубліцы.

Пачынаючы з 1996 году, вядзецца маніторынг па праблеме рэалізацыі свабоды слова і друку ў Беларусі. Матэрыялы маніторынгу прадстаўляюцца міжнародным праваабарончым арганізацыям, а таксама прадстаўленыя на старонцы Беларускага ПЭН-цэнтру ў Інтэрнэт.

Адрэса:
г.Менск, вул.Залатая горка, 2-101.
Тэл.213-34-61

## БАРЫСАЎСКІ ЦЭНТАР ГРАМАДЗКІХ ІНІЦЫЯТЫВАЎ «СКРЫЖАВАНЬНЕ»



Барысаўскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Скрыжаваньне», які распачаў сваю дзейнасьць ад лістапада 1998 году, быў утвораны для аказаньня кансультатыўнае, мэтадычнае, інфармацыйнае, тэхнічнае дапамогі няўрадавым арганізацыям Барысаўскага, Смалявіцкага, Крупскага й Бярэзінскага раёнаў дзеля развою грамадзянскае супольнасьці ў рэгіёне.

Асноўнымі кірункамі дзейнасьці «Скрыжаваньня» зьяўляюцца інфармацыйна-тэхнічнае забясьпячэньне дзейнасьці мясцовых няўрадавых арганізацыяў, пошук сродкаў для падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў, арганізацыя навучальных праграмаў для лідараў і актывістаў мясцовых няўрадавых арганізацыяў, правядзеньне масавых спартовых і турыстычных мерапрыемстваў. Адным з найпрыярытэтных кірункаў варта адзначыць вылучэньне й падтрымку моладзевых актыўнасьцяў у рэгіёне.

Цэнтар «Скрыжаваньне» мае партнэрскія стасункі са шматлікімі арганізацыямі адзначанага рэгіёну (Жодзіна, Смалявічы, Крупкі, Бобр і інш.), а таксама Польшчы (пазнаньская група Amnestey International, гданьская арганізацыя «Mlodzi demokraci», люблінскія Школьныя клюбы Эўрапэйскія ды інш.) У межах Цэнтру дзейнічаюць шэраг маладых няўрадавых арганізацыяў: моладзевы цэнтар «Абярэг», спартова-турыстычны клюб «Волат», настаўніцкі клюб «Настаўнікі Бацькаўшчыне», асьветніцкі клюб імя Тышкевічаў, рок-клюб «Вайдэлоты», скаўцкае аб'яднаньне ды шэраг іншых.

З арганізацыйна-тэхнічнае падтрымкі Цэнтру летась ажыцьцяўляўся й сёлета працягвае ажыцьцяўляцца шэраг выдавецкіх праектаў. З найбольш удалых варта адзначыць выданьне інфармацыйна-праваабарончага бюлетэню «Разам», моладзевых пэрыёдыкаў «Маладая барысаўская газэта», «Маладзік», «Пячанскі веснік», а таксама шырока вядомага па ўсёй краіне футбольнага выданьня «Offside». Пэрыядычна адбываюцца курсы кампутаровага навучаньня для моладзі.

У 1999-2000 г.г. Цэнтрам быў праведзеня шэраг навучальных сэмінараў, скіраваных на падвышэньне прафэсійнага ўзроўню маладых журналістаў рэгіёну й прававаых ведаў грамадзкіх і палітычных актывістаў. Улетку пры падтрымцы Цэнтру штомесяц ладзіліся моладзевыя скаўцкія й футбольныя летнікі. На пачатку году былі падтрыманыя й ажыцьцёўленыя настаўніцкія праекты, скіраваныя на пазакляснуюпрацу з моладзьдзю. Асабліва пасьпяховым можна назваць дзейнасьць школьнага клюбу «Бацькаўшчына» СШ №12 г.Барысава.

Сёлета, як і раней, дзейнасьць «Скрыжаваньня» ўва многім будзе вызначацца пошукам і падтрымкай новых ініцыятываў у рэгіёне, дапамогай у паўстаньні новых пэрыядычных выданьняў.

З найбліжэйшых плянаў Цэнтру неабходна адзначыць правядзеньне моладзевага паходу «Сьцежкамі Адама Міцкевіча», а таксама ўжо традыцыйнага двухдзённага футбольнага турніру на Кубак Незалежнасьці.

Кантактная інфармацыя:
222120 Менская вобл. Барысаў-15 а/с 641
тэл/факс (01777) 6-70-55
E-mail: crossrd@crossrd.org.by

Берасьцейскі абласны цэнтр падтрымкі грамадскіх ініцыятываў «Вежа» лічыць сваёй місіяй стварэньне грамадзянскай супольнасьці ў незалежнай Беларусі шляхам падвышэньня актыўнасьці грамадзянаў Берасьцейшчыны, кіруючыся прынцыпамі гуманізму, свабоды і дэмакратыі.

## БЕРАСЬЦЕЙСКІ АБЛАСНЫ ЦЭНТАР ПАДТРЫМКІ ГРАМАДЗЯНСКІХ ІНІЦЫЯТЫВАЎ «ВЕЖА»




Цэнтр «Вежа» заснаваны ў лістападзе 1997г. і зарэгістраваны ў студзені 1998 г.

Сябрамі Цэнтра «Вежа» сёньня з`яўляюцца 23 чалавекі, у ліку якіх студэнты, маладыя сьпэцыялісты й лідэры грамадскіх аб`яднаньняў Берасьцейшчыны.

Цэнтр уваходзіць у Асамблею дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі а таксама з`яўляецца адным з заснавальнікаў Беларускай асацыяцыі рэсурсных цэнтраў (БАРЦ).

Берасьцейскі абласны цэнтар падтрымкі грамадзкіх ініцыятываў «Вежа» лічыць сваёй місіяй стварэньне грамадзянскай супольнасьці ў незалежнай Беларусі шляхам падвышэньня актыўнасьці грамадзянаў Берасьцейшчыны, кіруючыся прынцымамі гуманізму, свабоды і дэмакратыі.

Задачы Цэнтра «Вежа»:
- *павелічэньне інтэлектуальнага патэнцыялу рэгіёна і грамадзкай актыўнасьці яго жыхароў;*
- падтрымка дыялёгу як паміж рознымі групамі грамадзтва, так і паміж Беларусьсю і замежнымі дзяржавамі;
- фарміраваньне культуры і нацыянальнай сьвядомасьці;
- падтрымка грамадзтва на шляху фарміраваньня рынкавай эканомікі;
- падтрымка ініцыятываў, якія спрыяюць абароне правоў і свабодаў чалавека.

Цэнтр «Вежа» працуе з зарэгістраванымі грамадзкімі аб`яднаньнямі, нефармальнымі групамі, ініцыятыўнымі грамадзянамі й незалежнымі выданьнямі. Усе паслугі Цэнтра бясплатныя.

Дзейнасьць цэнтра скіраваная на:
*Інфармацыйную падтрымку.*
- выданьне бюлетэня «Каліва»;
- кансультацыі па пытаньнях рэгістрацыі і прававога поля НДА фандрайзінгу, паблік рэлейшнз;
- бібліятэка, падпіска на газэты;
- інфармацыя аб новых праграмах і конкурсах фондаў і арганізацыяў;
- інтэрнэт;
- база дадзеных партнёрскіх сувязяў NGO у краіне і за мяжою;

Тэхнічную падтрымку.
- карыстаньне кампутарамі;
- выдавецкі цэнтр: набор, макетаваньне, памнажэньне, прадастаўленьне памяшканьня;

Адукацыйную падтрымку.
- сэмінары і трэнінгі;
- моўныя курсы;
- кампутарныя курсы;
- курсы карыстальнікаў Інтэрнэт.

Дзейнічае праграма «Прававая клініка». Яе сутнасьць - практычнае навучаньне студэнтаў права праз ажыцьцяўленьне бясплатнае юрыдычнай дапамогі сацыяльна незабароненым грамадзянам, а таксама прадстаўнікам іншых сацыяльных групаў. З красавіка 1999г. па травень 2000г. у Прававую клініку зьвярнулася 92 грамадзяніна Берасьцейскага рэгіёну.

З мэтай кансалідацыі розных групаў грамадства Берасьцейшчыны праводзяцца круглыя сталы NGO па накірунках дзейнасьці. Вынікам іх правядзеньня з`яўляецца стварэньне новых арганізацыяў і каардынацыйных саветаў. Дзейнічае Савет нацыянальных арганізацыяў, рэгулярна праводзяцца пасяджэньні прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў.

Дзеля падтрымкі дыялёгу паміж прадстаўнікамі трэцяга сэктару Беларусі з замежнымі дзяржавамі і арганізацыямі праводзяцца сустрэчы з супрацоўнікамі фондаў і арганізацыяў Польшчы, ЗША, Славакіі, Швэцыі, Германіі, Даніі.

Кантакт: 224030, г. Берасьце, вул. Савецкіх пагранічнікаў, 52.
Тэл\факс: (0162) 20-34-92, 20-34-87.
E-mail: vezhain@brest.unibel.by

## ГРАМАДЗКАЕ АБ`ЯДНАНЬНЕ «СЬЦЯГ»




Заснавана ў сакавіку і зарэгістравана ў красавіку 2000 г. «Сьцяг».

Асноўныя мэты дзейнасьці:
- ажыцьцяўленьне дабрачыннай і вытворча-гаспадарчай дзейнасьці, накіраванай на рашэньне статутных мэтаў і задач аб`яднаньня;
- выданьне й распаўсюджваньне рэклямна-інфармацыйных, перыядычных друкаваных і іншых матэрыялаў;
- узаемадзеяньне з навучальнымі ўстановамі;
- рэгулярны ўзаемаабмен інфармацыяй па праблемах горада з рознымі грамадзкімі групамі, арганізацыямі, правядзеньне сустрэчаў, сэмінараў і выставаў;
- падтрымка недзяржаўных арганізацыяў;
- пошук партнэраў для сумеснай працы як у нашай краіне, так і за мяжою.

Плянуемыя праекты:
- выданьне інфармацыйнага бюлетэня Грамадзкага аб`яднаньня «Сьцяг»;
- цыкл сэмінараў і лекцый «Беларуская нацыянальная сымболіка»;
- выстава «Флагі і сьцягі Берасьцейшчыны»;
- выстава «Гербы Берасьцейшчыны».

Тыя, хто жадае замовіць вымпелы, сьцяжкі ці эмблемы сваёй арганізацыі, могуць зьвярнуцца на ніжэй згаданы адрас.

Кантакт: 224005, г. Берасьце, вул. Гогаля, 4/1
Тэл\факс: (0162) 20-34-92, 20-34-87
E-mail: vezhain@brest.unibel.by

## БЕЛАРУСКАЯ РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ГРАМАДЗКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ «АБ'ЯДНАНЫ ШЛЯХ»



Зарэгістравана ў 1995г., прайшла перарэгістрацыю ў 1999-м; мае дабрачынны характар дзейнасьці.

Наша місія:
садзейнічаць развіцьцю некамерцыйнага сэктара Беларусі, *дапамагаючы грамадзкім арганізацыям эфэктыўна працаваць і заваёўваць грамадзкае прызнаньне.*

Наш рэсурсны цэнтр прапануе:
Інфармацыю
- базы дадзеных: беларускіх грамадзкіх арганізацыяў, пэрыядычных выданьняў беларускіх НКА, прэс-маніторынга;
- нашы выданьні: Даведнік беларускіх грамадзкіх аб'яднаньняў; даведнік грантадаўцаў «Фінансавая падтрымка грамадзянскай супольнасьці на Беларусі»; зборнік артыкулаў «Прававое становішча грамадзкіх аб'яднаньняў у Рэспубліцы Беларусь», а таксама мэтадычныя дапаможнікі па прававых аспэктах дзейнасьці грамадскіх арганізацыяў, дапаможнік «Эфектыўнае разьвіццё грамадзкіх арганізацыяў», штомесяцовы бюлетэнь БРГА «Аб'яднаны шлях»;
- унікальную спэцыялізаваную бібліятэку, у якой: даведнікі фондаў-грантадаўцаў і мэтадычныя матэрыялы па збору сродкаў, пэрыядычныя і даведачныя выданьні аб дзейнасьці трэцяга сэктара Беларусі, краін былога Савецкага Саюза, краін Цэнтральнай і Усходняй Эўропы, *а таксама выданьні па пытаньнях мэнэджмэнту ў НКА;*
- прэс-маніторынг беларускіх нацыянальных і рэгіянальных газэт «Публікацыі аб беларускіх НКА, замежных фондах і арганізацыях» (30 000 артыкулаў, пачынаючы з кастрычніка 1996 года).

Кансультацыі
- па прававых аспэктах стварэньня і дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў;
- па пытаньнях напісаньня праектаў прапановы.

Адукацыйныя паслугі
- сэмінары, трэнінгі і «круглыя сталы» для прадстаўнікоў НКА Мінска і малых гарадоў Беларусі па актуальных пытаньнях дзейнасьці НКА;
- АВС-курсы для «навічкоў» у трэцім сэктары;
- падрыхтоўка і павышэньне кваліфікацыі трэнераў для НКА;
- курсы па навучаньню працы на кампутары (пачатковы, прасунуты ўзровень і спеэцыяльная падрыхтоўка);
- курсы па арганізацыі працы з дакумэнтамі ў НКА і курсы бізнэсовай карэспандэнцыі на ангельскай мове.

*Тэхнічныя паслугі:*
- карыстаньне кампутарам, электроннай поштай, Internet, фотакапіявальнай тэхнікай для ажыцьцяўленьня статутнай дзейнасьці;
- карыстаньне памяшканьнем (18м²).

Звяртайцеся: вул.Уральская, 3-30, 220037, г. Мінск,
Тэл./факс: (017) 230 32 76, 230 80 5
E-mail: uwb@user.unibel.by

### ДАВЕДНІК «ПАДТРЫМКА ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ НА БЕЛАРУСІ»




Пры фінансавай падтрымцы Фонду Чарльза Сьцюарта Мотта і пасольства Фэдэратыўнае Рэспублікі Германія выйшла другое выданьне Даведніка «Падтрымка грамадзянскай супольнасьці на Беларусі».

У параўнаньні з першым выданьнем, назва даведніка крыху зьмянілася - зьнікла слова «Фінансавая». Гэта абумоўлена тым, што да інфармацыі аб установах, якія падтрымліваюць праекты фінансава, дадаліся звесткі аб арганізацыях і прадстаўніцтвах, якія аказваюць іншыя, ня менш важныя, віды падтрымкі: інфармацыйную, кансультацыйную, арганізацыйную і інш.

Даведнік утрымлівае інфармацыю аб 39 фондах і арганізацыях, якія аказваюць фінансавую і іншыя віды падтрымкі беларускім грамадзкім аб'яднаньням.

### ДАВЕДНІК ПЭРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ БЕЛАРУСКІХ ГРАМАДЗКІХ АБ'ЯДНАНЬНЯЎ




Пры фінансавай падтрымцы Фонду Чарльза Сьцюарта Мотта і пасольства Фэдэратыўнае Рэспублікі Германія выйшаў першы на Беларусі Даведнік, які прапануе інфармацыю аб пэрыядычным друку сучаснага трэцяга сэктара ў такім аб'ёме. Не прэтэндуючы на паўнату (кожны дзень зь'яўляюцца і прыпыняюць сваю дзейнасьць шматлікія ініцыятывы), Даведнік вельмі падрабязна знаёміць з 243 выданьнямі беларускіх грамадзкіх аб'яднаньняў.

У дадатку вы знойдзеце дыяграмы, якія *прадстаўляюць працэнтныя суадносіны* размеркаваньня выданьняў НКА па рэгіёнах і па тэматыцы, а таксама анкету, якую Вы можаце запоўніць самі і прапанаваць рэдактарам пэрыядычных выданьняў, якія не ўвайшлі ў Даведнік альбо зьявіліся пад час яго стварэньня (абавязковай умовай зьяўляецца наяўнасьць сярод заснавальнікаў грамадзкай арганізацыі). Калі вы зацікаўлены, каб аб Вашым выданьні даведаліся і ў нашай краіне, і за яе межамі, дасылайце нам зьвесткі аб ім да 1 лістапада 2000 года.

БРГА «Аб'яднаны шлях» пастаянна папаўняе базу дадзеных перыядычных выданьняў беларускіх НКА і плянуе перавыданьне Даведніка ў наступным годзе.

## NOTA BENE: ЗЬВЯРНІ ЎВАГУ!




Штомесяцовы бюлетэнь Магілёўскай Інфармацыйнай Сеткі мае слоган: «Разумны шукае сяброў - дурань стварае ворагаў». І, мусіць, нездарма - магілёўскае аб'яднаньне «Кола сяброў», якое і выдае штомесяцовік, справядліва разьлічвае на тое, што «NOTA BENE» знойдзе сабе не толькі аўтараў ды інфарматараў, але і прыхільнікаў.

Бюлетэнь інфармуе пра імпрэзы, што ладзілі магілёўскія дэмакратычныя суполкі, у першую чаргу самое «Кола сяброў», паведамляе навіны з раёнаў Магілёўшчыны, распавядае аб праблемах Трэцяга сэктару і аб спосабах іх рашэньняў.

Каардынаты бюлетэню:
Тэл/факс (0222) 22-97-82
Тэл. 22 33 03
e-mail: krug@user.unibel.by/
А прапановы, матэрыялы і абвесткі можна накіроўваць па адрэсе:
NotabeneNGO@mail.ru




### ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ - У INTERNET

Мы пачынаем новую рубрыку, у якой чытачы бюлетэня Асамблеі змогуць пазнаёміцца з інтэрнэт-старонкамі грамадзкіх арганізацыяў.

На сайце ТБМ (http://tbm.org.by) барацьбіты за родную мову даюць дастаткова поўную карціну моўнае сытуацыі на Беларусі. Акром навінаў, аб'яваў, моўнага маніторынгу мы можам наведаць віртуальную бібліятэчку, даведацца аб важных момантах нашае культуры; свае мейсца атрымала на сайце і газэта ТБМ - «Наша слова». «Беларускі відэаклюб» пазнаёміць з відэанавінкамі, даведнік «Беларускі internet» - з сайтамі айчынных грамадзкіх і культуралягічных арганізацыяў. Прадугледжаная, вядома ж, і зваротная сувязь з наведвальнікамі сусьветнае кампутарнае сеткі. За час існаваньня сайта яго наведалі сотні прыхільнікаў нашае мовы ■

### Праграма «Малыя праекты пры садзейнічаньні Амбасады Каралеўства Нідэрлянды» (MATRA)

Праграма «Малыя праекты пры спрыяньні Амбасады Каралеўства Нідэрлянды» мае на мэце прадстаўленьне грамадзкім арганізацыям і прыватным асобам фінансавай падтрымкі для рэалізацыі імі розных праектаў. Перавага праграмы заключаецца ў тым, што рашэньне аб прадстаўленьні субсыдыяў той ці іншай арганізацыі прымаецца Амбасадай Каралеўства Нідэрлянды самастойна, што дазваляе ў больш кароткі тэрмін разгледзіць і прыняць рашэньне па кожным асобным запыце.

Праграма дзейнічае ў Эстоніі, Латвіі, Літве, Украіне, Расіі, Беларусі.

Памеры гранта не перавышаюць 9000 даляраў ЗША. Фінансавая падтрымка праекту зьяўляецца аднаразовай.

Правілы падачы заявак: з запытам аб прадстаўленьні фінансавай падтрымкі неабходна зьвярнуцца ў Амбасаду Каралеўства Нідэрлянды. Заяўкі прымаюцца на працягу ўсяго года. Аб выніках разгляду паведамляецца ў пісьмовай форме.

У межах праграмы могуць быць прафінансаваны праекты, скіраваныя на:
- Умацаваньне праўнай абароненасьці і гарантыяў правоў асобы;
- Павышэньне выніковасьці сыстэмы ўдзелу грамадзкасьці ў працэсе кіраўніцтва і прыняцьця рашэньняў;
- Інфармаваньне грамадзкасьці шляхам распаўсюду брашураў і праспэктаў;
- Выпуск пэрыядычнага выданьня, прысьвечанага працэсам грамадзкіх зьменаў;
- Арганізацыю сэмінараў па праблемах правоў чалавека, свабодных выбараў, навакольнага асяродзьдзя і да т.п.

У межах праграмы не фінансуецца дзейнасьць, якая носіць дабрачынны характар (пастаўка прадуктаў харчаваньня, аказаньне мэдычнай дапамогі).

Заяўка на грант павінна ўтрымліваць:
- Апісаньне мэтавай накіраванасьці праекту. Неабходна дакладна ўказаць, у чым менавіта заключаецца плянуемы ўнёсак ад рэалізацыі дадзенага праекту ў дэмакратычны працэс;
- Указаньне мэтавай групы праекту;
- Апісаньне канкрэтнай дзейнасьці ў рамках праекту;
- Тэрмін, на які разьлічаны праект;
- Уласны ўнёсак і пажаданы ўнёсак зь нідэрляндзкага боку ў рэалізацыю праекту;
- Бюджэт.

Кантакты: Амбасада Каралеўства Нідэрлянды, Польшча
Паштовая адрэса: ul. Chocimska 6, 00-791 Warsaw, Poland
Тэлефоны: (4822) 49-23-51/2
Факс: (4822) 48-83-45





### Вэстмінстэрская Фундацыя за Дэмакратыю (ВФД) (Westminster Foundation for Democracy)

Вэстмінстэрская Фундацыя за Дэмакратыю падтрымлівае праекты, якія робяць унёсак у разьвіцьцё плюралістычных дэмакратычных інстытуцыяў у розных краінах. ВФД працуе ў трох рэгіёнах: Цэнтральная і Усходняя Эўропа, СНД, англямоўная Афрыка.

ВФД можа падтрымаць наступныя ініцыятывы:
- выбарчая сыстэма і адміністраваньне;
- парлямэнт і іншыя прадстанічыя інстытуцыі;
- палітычныя партыі;
- незалежныя СМІ;
- прававыя рэформы;
- прафсаюзы;
- абарона правоў чалавека;
- жаночыя арганізацыі;
- іншыя палітычныя НА;

Перавага аддаецца праектам, якія:
- ўтрымліваюць дакладны план дзеяньняў, скраваны на дасягненьне пэўнага выніку;
- скіраваны на атрыманьне доўгатэрміновых вынікаў;
- спрыяюць станаўленьню арганізацыі як самадастаковай структуры, а не патрабуючай далейшага дадатковага фінансаваньня.

ВФД не фінансуе:
канфэрэнцыі, дасьледваньні, адукацыйныя стыпэндыі, культурныя, аздараўленчыя і сацыяльныя праграмы. ВФД не падтрымлівае арганізацыі, якія выступаюць за гвалтоўныя мэтады дасягненьня пастаўленых мэтаў.

Адміністрацыйныя выдаткі фінансуюцца ў мінімальным памеры. Абсталяваньне забяспечваецца, зыходзячы з рацыяльных патрэбаў у ім.

Правілы падачы заявак

Перад падачай заяўкі на грант неабходна зьвярнуцца ў ВФД зь лістом, які зьмяшчае кароткую інфармацыю пра арганізацыю і агульную ідэю праекта. Заяўкі прымаюцца на расейскай і ангельскай мовах.

Дэталёвую інфармацыю па пытаньнях складаньня заяўкі, патрабаваньняў да бюджэту і правілах працы фундацыі вы атрымаеце непасрэдна з ВФД у адказ на папярэдне дасланы вамі ліст.

Заяўка павінна дасылацца ў ВФД за 2 месяцы да чарговага разгляду.

Разгляды заявак адбываюцца 4 разы на год (напрыканцы студзеня, красавіка, ліпеня і кастрычніка). Інфармаваньне аб выніках кожнага разгляду адбываецца на працягу тыдня пасьля яго заканчэньня.

Паштовы адрас: 2nd Floor, 125 Pall Mall, London SW1Y 5EA, United Kingdom
Тэлефон: +44 207 930 0367
Факс: +44 207 930 0449
E-mail: johnm@wfd.org



**АБ'ЯДНАНЬНЕ ШКОЛА ЛІДЭРАЎ (Варшава)**

Пры дапамозе

**МОЛАДЗЕВАГА ІНФАРМАЦЫЙНАГА ЦЭНТРУ**

## ШКОЛА ДЛЯ МАЛАДЫХ ЛІДЭРАЎ

Тэрмін правядзеньня:
2-16 верасня 2000 году.

Месца правядзеньня:
прыгарад Варшавы.

Школа для маладых лідэраў гэта:
- тэарытычныя й практычныя веды;
- інтэрактыўныя мэтады навучаньня;
- прафэсійныя трэнэры й выкладчыкі;
- запрошаныя госьці.

Удзельнікі школы для маладых лідэраў атрымаюць веды:
- як рабіць прамовы й удзельнічаць у дэбатах;
- як будаваць каманду;
- як праводзіць кампаніі па выбарах;
- як праводзіць аналіз мясцовага грамадзтва;
- як кіраваць праектам;
- як выходзіць з канфліктных сітуацый;
- па асновах этыкі публічных выступаў.

Навучэнцы: асобы, узросту 19-27 гадоў, якія займаюцца грамадзкай ці палітычнай дзейнасьцю. Ад кадыдатаў вымагаецца добрае валоданьне польскай мовай.

Школа будзе праходзіць у Польшчы, у прыгарадзе Варшавы.

Выдаткі на навучаньне, пражываньне й харчаваньне пакрываюцца арганізатарамі.

Анкету й дадатковую інфармацыю можна атрымаць у Моладзевым Інфармацыйным Цэнтры, які знаходзіцца па адрасе:

Менск, 220013,
вул. Дарашэвіча, 4-8,
тэл. (017) 239 3117,
факс (017) 232 2743
ці на інтэрнэтаўскай старонцы
http://www.szkola-liderow.pl.

Запоўненыя фармуляры просім Вас даслаць на адрэсу Моладзевага Інфармацыйнага Цэнтру да 20 ліпеня.

## ФОНД «ІНСТЫТУТ НА КАРЫСЬЦЬ ДЭМАКРАТЫІ ВА ЎСХОДНЯЙ ЭЎРОПЕ» АБВЯШЧАЕ КОНКУРСЫ МАЛЫХ ГРАНТАЎ

### «ПАДТРЫМКА ГРАМАДЗКІХ ІНІЦЫЯТЫВАЎ У БЕЛАРУСІ»

Мэты конкурсу:

Падтрымка і разьвіцьцё няўрадавых арганізацыяў і грамадзскіх ініцыятываў у Беларусі.

Умовы конкурсу:

Заяўкі прыймаюцца ад зарэгістраваных і незарэгістраваных аб'яднаньняў.

У конкурсе могуць удзельнічаць праекты, дзейнасьць якіх накіравана на:
- захаваньне нацыянальнай культурнай, гістарычнай і прыроднай спадчыны;
- стварэньне партнэрскіх сувязяў паміж арганізацыямі;
- умацаваньне грамадзкай супольнасьці.

Фонд не разглядае праекты ад прыватных асобаў і аб'яднаньняў:
- якія падтрыманы іншым спонсарам;
- якія ўжо былі двойчы падтрымаиыя Фондам;
- якія былі падтрыманыя ў конкурсе IDEE у 1998 альбо 1999 гг. і якія не прадставілі справаздачу за падтрыманы праект;
- бюджэт якіх перавышае 1500$.

Заяўкі прымаюцца да 6 жніўня 2001 г.

Заяўка на грант мусіць уключаць наступныя разьдзелы:

**I**. інфармацыйная характарыстыка праекту:
1. Назва конкурсу;
2. Назва праекту;
3. Назва арганізацыі;
4. Кіраўнік праекту;
5. Адрас і талефон;
6. Дата і месца рэгістрацыі;
7. Тэрмін выкананьня праекту.

**II**. Рэзюмэ (6-7 сказаў);

**III**. Падставы да напісаньня праекту: апісаньне канкрэтнай праблемы, якую Вы зьбіраецеся вырашыць з дапамогай дадзенага праекту.

**IV**. Апісаньне дзейиасьці: пасьлядоўнае апісаньне, як Вы зьбіраецеся выконваць задачы і дасягнуць пастаўленай мэты.

**V**. Чаканыя вынікі: якая карысьць будзе ад Вашага праекту для грамадзтва і як Вы бачыце яго працяг.

**VI**. Бюджэт: падрабязнае апісаньне і абгрунтаваньне кожнай пазыцыі.

### «ПАДТРЫМКА АДУКАЦЫЙНЫХ ІНІЦЫЯТЫВАЎ У БЕЛАРУСІ»

Мэты конкурсу:

Падтрымка і разьвіцьцё незалежных адукацыйных ініцыятываў у Беларусі.

Умовы конкурсу:

Заяўкі прымаюцца ад прываткых асобаў (настаўнікаў, выхаваўцаў і інш. асобаў, якія займаюцца адукацыйнай дзейнасьцю), зарэгістраваных і незарэгістраваных аб'яднаньняў.

У конкурсе могуць удзельнічаць праекты, зьвязаныя з адукацыяй дзяцей і моладзі, і дзейнасьць якіх накіравана на:
- захаваньне нацыянальнай культурнай, гістарычнай і прыроднай спадчыны (краязнаўства, экалёгія, лякальная гісторыя, турыстыка, мастацтва і г.д.);
- разьвіцьцё ў дзяцей і моладзі здольнасьці жыцьця і працы ў групе;
- інтэграцыю дзейнасьці на карысьць дзяцей і моладзі ў лякальным асяродзьдзі;
- распаўсюджаньне дэмакратычнай культуры і дэмакратычных каштоўнасьцяў сярод школьнай моладзі, а таксама разьвіцьцё кіраўнічых здольнасьцяў у маладых лідараў;
- арганізацыю актыўнага ўдзелу вучняў, бацькоў і настаўнікаў у працэсс прыняцьця рашэньняў і вырашэньня праблемаў у іх школьнай супольнасьці;
- факультатыўнае разьвіцьцё зацікаўленасьяў дзяцей і моладзі (гісторыя, спорт, сацыялёгія, ужытковае мастацтва і г.д.).

Фонд не разглядае праекты ад прыватных асобаў і аб'яднаньняў:
- якія падтрыманы іншым спонсарам;
- якія ўжо былі двойчы падтрыманыя Фондам IDEE;
- якія былі падтрыманыя ў конкурсе IDEE у 1998 альбо 1999 гг. і якія не прадставілі справаздачу за падтрыманы праект;
- бюджэт якіх перавышае 1500$.

Заяўкі прымаюцца да 6 жніўня 2001.

Заяўка на грант мусіць уключаць разьдзелы, згаданыя ў папярэдняй абвестцы, а таксама падрабязнае апісаньне і абгрунтаваньне кожнай пазыцыі.

У сувязі з адсутнасьцю прадстаўніцтва Фонда ў Беларусі прыём заявак ажыцьцяўляецца толькі мясцовымі рэсурсавымі цэнтрамі:

- Берасьцейская вобласьць - Цэнтар «Вежа». 224023, Берасьце, вул. Савецкіх памежнікаў, 52. Тэл.: (0162) 203487, 203492;
- Віцебская вобл. - Адзьдзяленьне Фонду імя Льва Сапегі. 210015, Віцебск, вул.Чарняхоўскага, 12/17. Тэл.: (0212) 224925;
- Гарадзенская вобласьць - Аб'яднаньне «Ратуша». 230023, Гародня, вул.Будзёнага, 48а, п.31. Тэл.: (0152) 442290;
- Гомельская вобласьць - Аб'яднаньне «Грамадзянскія Ініцыятывы». 246010, Гомель, вул. Палеская 52. Тэл.: (0232) 559371;
- Магілеўская вобласьць - Асацыяцыя «Кола сяброў». 212030, Магілёў, зав. Чкалава 16. Тэл.: (0222) 229782;
- Менская вобласьць і г. Менск - «Цэнтар Супольнасьць». 220023, Менск, пр-т Ф. Скарыны, 109-8. Тэл.: (017) 2639990.

Калі ласка, выражце гэты купон і дашліце на адрас:

**п/с 196, Менск-36, 220036**

**Шаноўныя сябры, калі вы жадаеце атрымліваць наш бюлетэнь запоўніце картку і дашліце на наш адрас.**

Арганізацыя: ____________________

Імя: ____________________

Паштовы адрас: ____________________

____________________

Тэлефон: ____________________

E-mail: ____________________

**БЮЛЕТЭНЬ №3**
**ЧЭРВЕНЬ 2000**

Матэрыялы падрыхтаваны Выканаўчым Бюро Асамблеі Дэмакратычных Няўрадавых Арганізацыяў

Адрас: п/с 196, Менск, 220036
E-mail: ngo@user.unibel.by
http//ngo.unibel.by

Наклад 299 асобнікаў
Выходзіць раз на месяц
Распаўсюджваецца бясплатна